# БЮЛЕТЭНЬ

Рэспубліканскага Камітэту Прафэсыянальнага Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў Б. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Арг. сектар. № 4-08.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ДВА ТЫДНІ

№ 2 | 25-га ліпеня 1931 году | № 2

## ЗЬМЕСТ



## ПАСТАНОВА

### 1-й Усебеларускай канфэрэнцыі пралетарскага студэнтства аб выніках першага Усесаюзнага і Усебеларускага зьездаў саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў і чарговых задачах работы сярод пралетарскага студэнтства.

Канфэрэнцыя з вялікім здавальненьнем канстатуе, што рабочая кляса пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі дабілася вялізарнейшых посьпехаў на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва. Толькі рашучая і бязьлітасная барацьба з правым апартунізмам (у тэорыі і на практыцы), як галоўнай небясьпекай на даным этапе. Барацьба з „левымі“ загібамі і прымірэнтствам да іх забясьпечыла нам пасьпяховае правядзеньне індустрыялізацыі краіны і на гэтай аснове сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі (саўгасы, калгасы, МТС) і ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі. Краіна Саветаў усё больш і больш пакрываецца сеткай вышэйшых і сярэдніх спэцыялізаваных навучальных установ (ВНУ, ВНТУ, рабфакі і г. д.) з передачай іх адпаведным установам, Няухільна растуць кадры чырвоных спэцыялістаў. З году ў год павялічваецца колькасьць пралятарскага студэнтства і палепшаецца іх якасны склад. Рэарганізацыя прафсаюзаў і на гэтаіа снове рашучы паварот прафсаюзных арганізацый „тварам да вытворчасьці“, ліквідацыя міжсаюзных студэнтскіх прафарганізацый і стварэньне іх непасрэдна па саюзным прынцыпу, яшчэ больш і лепш забясьпечвае належнае кіраўніцтва і практычную дапамогу ў рабоце сярод студэнтства. Таму канфэрэнцыя цалкам і поўнасьцю адабрае рашэньне аб арганізацыі Цэнтральнага Бюро Пралетстуду пры Прэзыдыуме Беларускага Рэспублікнскага Камітэту саюзу рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў і ў мэтах хутчэйшага зьнішчэньня яшчэ маючыхся буйных недахопаў у працы студэнтцтва, прапануе правесьці наступныя мерапрыемствы:

#### 1. Акадэмічная работа

1) Рашуча прыняць меры да далейшай перабудовы работы студпрафкомаў на новыя формы і мэтады, пад лёзунгам „тварам да вытворчасьці“ у адпаведнасьці з дырэктывамі партыі і прафсаюзных органаў, асаблівую ўвагу зьвярнуць на масавае прыцягненьне добраахвотніцтва і якасны падбор кіруючых

работнікаў прафкомаў і студпрафарганізатараў.

2) Зьвярнуць увагу на яшчэ большае ўцягненьне эфэктыўнасьці вучобы сярод студэнтцтва і пралятарска-клясавага яго выкананьня на такую вышыню, каб будучы савецкі спэцыяліст быў бы ня толькі добра ведаючым сваю спэцыяльнасьць, але і адначасова быў бы арганізатарм сацыялістычнай гаспадаркі і актыўным бязупынным барацьбітом за правядзеньне генэральнай лініі партыі.

3) Рашуча і да канца правесьці сапраўдную актывізацыю мэтадаў выкладаньня, бязьлітасна змагаючыся з усімі скрыўленьнямі ў гэтай адносіне.

4) Мэтадамі шырокай крытыкі і самакрытыкі падвергнуць масаваму абгаварэньню наколькі правідлова перабудаваны і адказваюць сучаснай сапраўднасьці праграмы і вучэбныя пляны ўсіх ВНУ, рабфакаў, тэхнікумаў і падрыхтоўчых курсаў.

5) Прыняць безадкладныя меры да зьнішчэньня маючыхся выпадкаў разрыву паміж тэорыяй і практыкай. Паставіць на належнюю вышыню бесьперапынную вытворчую практыку студэнтаў. Забясьпечыць правільнае сыстэматычнае кіраўніцтва практыкай і рацыянальнае выкарыстаньне студэнтаў-практыкаў.

6) Абавязаць прафкомы, абапіраючыся на масавы рух студэнтаў-ударнікаў, тэрмінова праверыць і шырока разгарнуць работу па ауладаньні тэхнікай як сярод вучняў, так і прафэсарска-выкладніцкага складу, адначасова зьвярнуўшы ўвагу на неправільную працу тэхнічна-навуковых гурткоў і выторчых нарад.

7) Надаючы выключнае значэньне палепшаньню сацыяльнага складу вучняў і маючы выпадкі засьмечаньня навучальных установ клясава-чужым элемэнтам, неабходна ўзмацніць клясавую пільнасьць у парадку сыстэматычнай самаачысткі выкідваць усіх чужых элемэнтаў.

8) Канфэрэнцыя заастрае ўвагу ўсіх арганізацый і студэнцтва на неабходнасьць сваечасовай падрыхтоўкі да васеньняга набору, поўнага забесьпячэньня кантыгэнту набора і строга
захаваньне устаноўленых курый, асабл
вую ўвагу зьвярнуць на павялічэньн
рабочай часткі студэнцтва і партыйна
камсамольскай праслойкі.

9) Канфэрэнцыя рашуча патрабу
павароту гаспадарчых арганізацый па
уладных ім навучальных устаноў і ле
шага мэтадычнага кіраўніцтва і плян
ваньня ўсей навукова-дасьледчай раб
тай. З гэтай мэтай канфэрэнцыя прасі
Прэзыдыўм Рэсп. К-ту саюзу дабіц
сыстэматычнай пастаноўкі дакладаў га
падарчых аб,яднаньняў у ВНУ, тэх
кумах і рабфаках.

10) Канфэрэнцыя даручае нова
ЦБ Пралетстуду і просіць Рэсп. К
саюзу прыняць усе магчымыя меры
таго, каб па магчымасьці забясьпечы
навучальныя ўстановы неабходны
прафэсарска-выкладніцкімі кадрамі.

11) Канфэрэнцыя патрабуе беза
кладнага зьнішчэньня меўшых мес
выпадкаў недысцыплінаванасьці, беза
казнасьці, неправільных узаемаадно
як сярод часткі студэнцтва, адміністр
цыі, так і прафэсарска-выкладніцка
складу. Зьвярнуць асаблівую ўвагу
ўзмацненьне адзінаначальля ў ВНУ, т
нікумах і рабфаках.

## II. Палітыка-выхаваўчая і культмасавая работа.

1) Канфэрэнцыя патрабуе ад саю
і ўсіх студпрафарганізацый таго, к
усю культмасавую работу падпарад
ваць асноўным задачам для павышэ
ня клясавай сьвядомасьці і бальшав
кай закалкі студэнцкіх мас і іх мак
мальнай пасьпяховасьці на вучобе. Д
гэтага павінна быць ва ўсіх навуча
ных установах арганізаваны гурткі
марксызму-ленінізму, бягучай палітыч
прафгурткі, наладжваньне палітбо
сваечасовы выпуск насьценгазэт і г.
Канфэрэнцыя лічыць мэтазгодным, 
ЦБ Пралетстуду да восені бягучага го
арганізавала масавы агляд палітыка-
хаваўчай і культурна-масавай рабо
сярод студэнцтва.

2). Асаблівую ўвагу зьвярнуць
далейшае паглыбленьне работы па п
вядзеньні нацыянальнай палітыкі пар
і інтэрнацыянальнага выхаваньня студ

а. Канфэрэнцыя патрабуе яшчэ ьш узмацніць барацьбу з вялікарус- шавінізмам, як галоўнай небясьпе- і на даным этапе, з контр-рэвалюцыйн- м нацдэмакратызмам і шавінізмам масьцей (беларускі, польскі, яўрэй- і г. д.). Прызнаючы нездавальняю- й работу па правядзеньні беларусіза- і ВНУ, тэхнікумах і рабфаках, канфэ- нцыя патрабуе рашучых дзеяў у гэтай жн. галіне і асабліва па вывучэньні бе- рускай мовы і яго карыстаньня ў быту.

3). Прыняць меры да таго, каб ра- га ВНУ, тэхнікумаў, рабфакаў і студ- афарганізацый шырока асьвятлялася нтральным друку (побач з насьцен- этамі) і асабліва ў газэце „Сельгас- бочы Беларусі“.

4). Асаблівую ўвагу зьвярнуць на ырокае разгортваньне сацспаборніц- і ударніцтва і яго вышэйшыя формы- 100% ахоп як студэнтаў, так і прафэ- рска-выкладніцкага складу. Трэба ў іжэйшы час арганізаваць масавы аг- д сацспаборніцтва і ударніцтва ва іх навучальных установах; Рашуча сьці барацьбу з ілжэударніцтвам і усі відамі апашленьня сацспаборніцтва - дарніцтва.

5). У бліжэйшы час шырока разгарі- уць рабнту па наладжваньні фізкуль- рнай работы і ваенізацыі студэнцтва ляхам арганізацыі цэлага шэрагу гурт- оў, лекцый. дакладаў і г. д., прыцягва- чы для гэтай мэты лепшыя сілы і па- авіць сваей задачай—100% ахоп сту- энцтва.

6). Канфэрэнцыя з усёй сілай пад- рэсьлівае неабходнасьць далейшага азгортваньня крытыкі і самакрытыкі і ашучай барацьбы з малейшымі спро- амі зажыму гэтакай з чыйго-бы боку ета не паходзіла.

## I. Культбытавыя умовы і прафабслугоўваньне.

1). Канфэрэнцыя просіць Рэсп. К-г аюзу зьвярнуць увагу на сваечасовае і належнае забесьпячэньне інтэрнатамі.

2). Зьнішчыць праз адпаведныя арганізацыі, вялікую разьбежку ў стыпэндыях паміж першым і трэцім курсам.

3). На новы навучальны год дабіцца некаторага павялічэньня стыпэндый для студэнтаў і асабліва 1-га і 2-га курсаў.

4], Студэнты—практыканты павінны атрымліваць зарплату па стаўках выконваемай імі работы, але ня менш атрымліваемай стыпэндыі.

5). Прыняць меры да лепшага забесьпячэньня навучальных установ прамтаварамі і прадуктамі харчаваньня па устаноўленых для студэнтаў нормах.

6). Зьвярнуць большую ўвагу на курортна—санітарнае абслугоўваньне студэнцкіх мас.

7) Значна палепшыць з боку ўсіх прафсаюзных арганізацый прафсаюзнае абслугоўваньне і практычную дапамогу ў рабоце стударганізацый.

8) Прыняць меры да ўзмацненьня прафсаюзнага росту за лік лепшай часткі пралетарскага студэнцтва (с/г рабочы, батрак і г. д.).

9) Неабходна работу пленуму ЦБ ўПралетстуду перанесьці ў навучальныя станов[ы] для большай сувязі з масамі.

10) Канфэрэнцыя асабліва завастрае ўвагу прафкомаў і ўсяго студэнцтва на ўзмацненьне работы па правядзеньні калектывізацыі. мабілізацыі фінансавых сродкаў насельніцтва і больш актыўнага ўдзелу ва ўсіх працэсах сацыял—стычнага будаўніцтва і гаспадарча-палітычных кампаніях. Канфэрэнцыя лічыць неабходным завастрыць пытаньне ўсяго студэнцтва на рэалізацыі пазыкі „3-га рашаючага году“ і сама аднача сова падпісваецца на 100%.

**Канфэрэнцыя аднадушна аб'яўшчае сябе ўда[рн]ай і мабілізаванай для выкананьня пастаўленых вышэй задач.**

# ПЛЯН РАБОТЫ

## рэспубліканскага бюро ІТС Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў на тэрмін з 1|VII 1931 года па 1|I 1932 года.

| №№ п. п. | Назва пытаньня | Хто дакладчык |
|---|---|---|
| | **Ліпень месяц.** | |
| 1 | Вынікі выбарачнага агляду саўгасаў у мэтах вывучэньня і спэцыялізацыі. | ЦБ ІТС, Трэсты і ЦБ ІТС |
| 2 | Ход сілоснай кампаніі. | Трэсты і ЦБ ІТС |
| 3 | Аб арганізацыі кас узаемадапамогі ІТР н/саюзу. | ЦБ ІТС |
| 4 | Аб сувязі ў рабоце з членамі Пленуму ЦБ ІТС. | " |
| 5 | Даклад Віпебскага Вэтэрынарнага Навукова-Дасьледчага Інстытуту. | НДВІ |
| 6 | Ход увядзеньня нармаваньня зарплаты ІТР. | НКПрацы, Трэсты і ЦБ ІТС |
| | **Жнівень месяц** | |
| 7 | Вынікі зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы, мерапрыемствы па максымальным пераводу ўсіх работ на зьдзельшчыну. | МБ ІТС і ЦБ ІТС |
| 8 | Аб зімовым захаваньні корне і клубне—плодаў у саўгасах. | Трэсты і ЦБ ІТС |
| 9 | Становішча сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод ІТР. | МБ ІТС і ЦБ ІТС |
| 10 | Кантрольные лічбы жывёлагадоўчых саўгасаў на 1932 г. | Трэсты і ЦБ ІТС |
| 11 | Аб скліканьні ІІ-га Пленуму ЦБ ІТС. | ЦБ ІТС |
| 12 | Даклад Вэт. складу—Орша ВЭТЭПО. | Вэт. склад |
| | **Верасень месяц** | |
| 13 | Даклад сьвінаводчага Інстытуту аб яго рабоце. | Інстытут і т. Туркін |
| 14 | Ход выкананьнк пастановы І-га Ўсебеларускага зьезду ІТР аб разгортваньні работы па аўладаньні тэхнікай. | МБ ІТС і ЦБ ІТС |
| 15 | Далейшыя мерапрыемствы па перанясеньні вопыта вышэйшых форм сацспаборніцтва з прамысловасьці ў саўгасы. | Трэсты і ЦБ ІТС |
| 16 | Вынікі эфэкту давядзеньня прамфінпляну да цэха, вучастку. рабочага і далейшыя мерапрыемствы. | ЦБ ІТС, Трэсты і МБ ІТС |
| 17 | Мерапрыемствы па цалейшай мэханізацыі работ у саўгасах. | Трэсты і ЦБ ІТС |
| 18 | Вынікі работы па нармаваньні зарплаты ІТР саўгасаў. | Трэсты і ЦБ ІТС |
| 19 | Мерапрыемствы па зімовым утрыманьні жывёлы ў саўгасах. | Трэсты, ВЭТЭПО і ЦБ ІТС |

| №№ п. п. | Казва пытаньня | Хто дакладчык |
|---|---|---|
| | **Кастрычнік месяц** | |
| 20 | Становішча палітвыхаваўчай работы і далейшыя задачы. | ЦБ ІТС |
| 21 | Становішча ўдзелу і чарговыя задачы ІТР у калгасным будаўніцтве. | ЦБ ІТС |
| 22 | Становішча падрыхтоўкі кадраў вышэйшай, сярэдняй і масавых кваліфікацый. | НКЗБ, трэсты і ЦБ ІТС |
| | **Лістапад месяц** | |
| 23 | Вынікі пастаноўкі работы па вывучэньні якасных паказчыкаў прамфінпляну. | МБ ІТС, трэсты і ЦБ ІТС |
| | **Сьнежань месяц** | |
| 24 | Вывучэньне севазваротаў у саўгасах у мэтах іх прыстасаваньня як кармовай базы. | Трэсты і ЦБ ІТС |
| 25 | Удзел ІТР у рацыяналізатарскіх мерапрыемствах саўгаскай вытворчасьці. | Трэсты і ЦБ ІТС |
| 26 | Становішча работы па ўдзелу ІТР у пэрыядычным і сталым друку. | ЦБ ІТС |
| 27 | Становішча работы ўдзелу ІТР у вытворчых нарадах. | " |
| 28 | Мерапрыемствы па далейшым палепшаньні бытавых умоў ІТр. | " |
| 29 | Аб тыпах і праектах будаўніцтва ў саўгасах. | Белсельбуд., трэсты і ЦБ ІТС |

# ПАСТАНОВА

## Прэзыдыуму Рэсп. К.ту Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў „аб арганізацыі мясцовых бюро ІТС пры рабачкомах саўгасаў"

*ад 29/VI 31 г.*

1. Улічваючы наяўнасьць спэцыялістаў у саўгасах, арганізаваць МБ ІТС па сыстэмах у наступных саўгасах:, налічваючых ад 7 да 10 чал.спэцыялістых.

**Па сыстэме Белсаўгастрэсту.**

1. Зацішша,
2. Тарасава
3. Вязынь-Фаніпаль
4. Русінавічы
5. Капацэвічы
6. Завалочыцы
7. Жылічы
8. Грудзінаўка
9. Падбярэзьзе
10. Беліца-Відокі
11. Станіслававa
12. Межава
13. Забалоцьце і бак. лябарат.
14. Уваравічы
15. Брылёў
16. Даўгалесьсе
17. Смалявічы
18. Весялова і бак. габінэт
19. Прылукі
20. В. Новасёлкі
21. Гаршчэўшчына
22. Пяскі і бак. станцыя
23. Белсаўгастрэст
24. Буйнічы і бак. лябараторыя

**Па сыстэме „Сьвінавод"**

1. Велень-Сінча
2. Вішнёўка
3. Нав. Дасьл. Інстытут
4. Белкантора "Сьвінавод"

5. Луцаўшчына
6. Боркі-Бялевічы
7. Банонь
8. Насовічы
9. Вызваленьне
10. Замошша
11. Сталіна
12. Рымэ
13. Бацэвічы
14. Зара-Захаду
15. Негарэлае
16. Шыкатавічы
17. Зарэчча
18. Палелюм
19. Пачаевічы
20. Ялава
21. Райцы
22. Канічы
23. Чэрыкаў
24. Вейна

**Па сыстэме Малочна-Масьлянага Трэсту.**

1. Перамога Сацыялізму
2. Зональная станцыя Горкі

**Па сыстэме ВЭТЭПО.**

1. Віцебскі НДВэт. Інстытут
2. Віцебская Біофабрыка

2. У астатніх саўгасах, дзе спэцыялістаў налічваецца менш 10 чал., вылучыць арганізатараў пры рабочых-камітэтах.

3. Усю работу па арганізацыі мясцовых бюро ІТР ускласьці на рабочыя камітэты саўгасаў з тым разьлікам, каб уся арганізацыйная работа была-б праведзена да 1-га Жніўня 1931 г. і к гэтаму-ж часу прыслаць Рэсп. К-ту падрабязны матар'ял.

## ПАЛАЖЭНЬНЕ.

### Аб працы з вядучымі прафэсіямі ў саўгасе і ў падсобнай гаспадарцы.

1. У мэтах узмацненьня канкрэтнага кіраўніцтва саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў, падвышэньня і ўзмацненьня арганізацыйнасьці рабочых мас на рашаючых вучастках, барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінплянаў, прафсаюзныя органы на аснове рашэньняў V-га Пленуму ЎсеЦСПС праводзяць на прадпрыемствах спэцыяльную работу сярод рабочых вядучых прафэсый.

2. Работа з вядучымі прафэсіямі ставіць задачу найбольш поўнага абслугоўваньня важнейшых з пункту гледжаньня выкананьня прамфінпляну прафэсый, максымальнага выкарыстаньня іх вытворчай ініцыятывы, большага прыцягненьня да вырашэньня вытворчых працэсаў і пераважнае культурнае і бытавое абслугоўваньне.

3. Выходзячы з гэтага, вядучымі прафэсыямі па саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў могуць быць наступныя прафэсыі: трактарысты, даяркі, скотнікі, сьвінары, інкубатаршчыкі, наезьнікі, конюхі.

4. Для работы з вядучымі прафэсыямі ў саўгасе і ў падсобнай гаспадарцы пад кіраўніцтвам рабачкому ці цэхавага камітэту праводзяцца наступныя мерапрыемствы:

а) склікаецца агульны сход вядучых прафэсый;

б) арганізуецца самастойная вытворчая нарада вядучай прафэсыі, на чале з арганізатарам ВН;

в) пад кіраўніцтвам рабачкому і цэхавага камітэту ствараюцца з рабочых ударнікаў вядучых прафэсый брыгады па асобных пытаньнях работы данай прафэсыі.

5. Пры правядзеньні культурных, гаспадарчых і іншых мерапрыемстваў, пры вырашэньні пытаньняў, зьвязаных з матар'яльным і бытавым становішчам рабочых, прафарганізацыі павінны асобна разглядаць данае пытаньне ці мерапрыемства з пункту погляду пераважнага забесьпячэньня рабочых вядучых прафэсый у межах, не парушаючых асноўных прынцыпаў і норм абслугоўваньня ўсіх астатніх груп рабочых.

6. На вучастках, дзе даная вядучая прафэсыя саўпадае з аднэй з вытворчых груп, абслугоўваемых групоргам на агульным сходзе вядучай прафэсыі абіраецца спэцыяльны ўпаўнаважаны данай вядучай прафэсыі.

7. На тых вучастках, дзе даная вядучая прафэсія згрупоўваецца ў аднэй групе, групорг вядучай прафэсыі аднachасова зьяўляецца вучастковым упаўнаважаным (пры вучасткоме).

8. У саўгасах, дзе даная вядучая прафэсыя раськідана па некалькіх падсобных гаспадарках - упаўнаважаны абіраецца ў агульна-саўгаскім маштабе.

9. Упаўнаважаны вядучай прафэсыі не супроціпастаўляецца РК, а знаходзячыся ў рамках аднаго вытворчага саюзу, узмацняе ролю рабачкому (цэхавага камітэту), як ячэйкі адзінага вытворчага саюзу на прадпрыемстве.

10. Упаўнаважаны прадстаўляе і абараняе інтарэсы данай прафэсыі, накіраваныя на пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, як па пытаньнях арганізацыі вытворчасьці, так і здавальненьня культурных і сацыяльна-бытавых патрэб рабочых данай прафэсыі.

11. Упаўнаважаны вядучай прафэсыі абіраецца на агульным сходзе членаў саюзу гэтай прафэсыі і зацьверджаецца рабачкомам агульна-саўгаскім ці цэхавым.

12. Упаўнаважаны абіраецца на тэрмін дзейнасьці рабачкому і цэхавага камітэту.

13. Выходзячы з гэтага, упаўнаважаны вядучай прафэсыі:

а) мабілізуе ініцыятыву рабочых данай прафэсыі на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, удзельнічае ў давядзеньні вытворчых заданьняў да асобнага рабочага, арганізуе работу па сустрэчнаму прамфінпляну, арганізуе сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод рабочых данай прафэсыі.

б) Выяўляе спэцыфічныя вытворчыя запатрабаваньні і патрэбы рабочых данай прафэсыі і дабіваецца іх здавальненьня праз адпаведныя праф. гасп., савецкія органы.

в) Клапаціцца аб найбольш поўным культурным і сацыяльна-бытавым абслугоўваньні прафэсыі, ставячы гэтыя пытаньні перад рабачкомам (цэхавым камітэтам) і інш. арганізацыямі.

Упаўнаважаны прафэсыіі ўдзельнічае ў абслугоўваньні пытаньняў, якія датычацца данай прафэсыі на пасяджэньнях гасп. і інш. арганізацый.

г) Дабіваецца ад гасорганаў правядзеньня неабходных мерапрыемстваў па арганізацыі вытворчасьці, падвышаючых вытворчасьць працы.

д) Арганізуе работу па аўладаньн тэхнікай праз арганізацыю гурткоў, лекцый, экскурсій. выпіску літаратуры і г.д па рацыяналізацыі вытворчасьці і асобных працоўных працэсаў, па абір ацельству і г.д.

е) Праверае, арганізуе і кантралюе выкананьне калдагавароў у частцы, якая датычыцца данай прафэсіі; прыцягвае актыў з ударнікаў да работы каапэрацыі, па грамадзкім харчаваньні і для арганізацыі работы і кантролю выкананьня іншых мерапрыемстваў, зьвязаных з сац. бытавым абслугоўваньнем (лазьні пральні, дзіцячыя пляцоўкі, фізкультура і г. д.).

ж) Сумесна з культарганізатарам і культсаветам праводзіць мерапрыемствы па ўзьняцьці культурна-палітычнага узроўню і вядзе работу па клясавым выхаваньні рабочых данай прафэсыі,

14. Упаўнаважаны вядучай прафэсыі склікае сход членаў саюзу свае прафэсыі па датыкаючыхся прафэсы пытаньнях.

15. Стварае са згоды рабочкому, цэхавога камітэту для прапрацоўкі і праверкі асобных пытаньняў (вытворчасьці быту і інш.) добраахвотніцкія брыгады з членаў саюзу данай прафэсыі.

16. Па асобных пытаньнях работы трымае сувязь і работае ў шчыльным кантакце з адпаведнымі арганізатарамі рабачкому і арганізуе з добраахвотнікаў ўдарнікаў сваёй прафэсыі групы для работы па адпаведных галінах работы рабачкому (цехавага камітэту) (культработа, работа на вёсцы і г. д.)

17. Упаўнаважаны вядучай прафэсыі работае пад непасрэдным кіраўніц-

твам рабачкому ці вучасткому, работае па плянах іх, загадзя ставячы пытаньні сваёй работы ў плян рабачкому (цэхавага камітэту).

УВАГА: Ніякіх спэцыяльных арганізацый упаўнаважаных прафэсый (саветы упапаўнаважаных і г. д.) на прадпрыемстве не ствараецца.

18. Для абмену вопытам работы і абгаварэньня агульных пытаньняў работы ўпаўнаважаных, рабачком па меры патрэбы склікае нараду ўпаўнаважных вядучых прафэсый.

19. Рашэньні агульнага сходу прафэсыі разглядаюцца і зацьверджаюцца рабачкомам (цэхавым камітэтам).

20. Рашэньні рабачкому і цэхавага камітэту для ўпаўнаважанага абавязковы.

21. Рабачком (цэхавы камітэт) усе пытаньні, якія датычацца данай прафэсыі, разглядае толькі пасьля папярэдняга абгаварэньня на агульным сходзе з упаўнаважаным прафэсыі, ці калі патрабуецца абгаварэньня на агульным сходзе прафэсый і пры абавязковым прысутнічаньні на пасяджэньн і рабачкому (цэхавага камітэту) ўпаўнаважанага прафэсыі.

22. Упаўнаважаны прафэсыі мае права прысутнічаць на ўсіх пасяджэньнях рабачкому (цэхавога камітэту) і тэхнічных нарадах адміністрацыі, цэха, заводу.

23. У сваёй рабоце ўпанаважаны кіруецца рашэньнямі партыі, вышэй стаячай прафарганізацыі і рашэньнямі агульнага сходу рабочых сваёй прафэсыі.

24. Упаўнаважаны адлічваецца ў сваёй рабоце перад агульным сходам рабочых сваёй прафэсыі і перад прафарганізацыямі.

25. Датэрміновыя перавыбары ўпаўнаважанага могуць быць утвораны ў выпадку, калі: а) упаўнаважаны ў парадку вылучэньня перайшоў на другую прафэсыянальную, гаспадарчую, партыйную работу; б) па запатрабаваньні паловы рабочых данай прафэсыі; па рашэньні вышэйстаячых праforганаў.

26. Упаўнаважаны, як правіла, работае па прынцыпу безплатнасьці ў слабодны ад работы час з прыцягненьнем да сваёй работы дабраахвотніцкага актыву.

**Выдавецтва Цэнтр. Праўл. Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў**

Адказны рэдактар **Маслава.**
Намесьнік **Карпусенка.**



Галоўлітбел № 1721. Зак. № 493—350. Друкарня Менспраўдому.